наша свабода

№71 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

31 КАСТРЫЧНІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




«Я супраць іх»

## Улады супраць Дзядоў

29 кастрычніка ў Магілёве адбыўся мітынг-рэквіем памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Каля Крыжа Памяці, які ўсталяваны на месцы масавых растрэлаў, сабралася каля 30 чалавек. За ходам мітынгу сачылі міліцыянты, вяліся відэаздымкі. Супрацоўнікам Кастрычніцкага РАУС Магілёва капітанам Маскалёвым быў затрыманы лідэр магілёўскага Маладога Фронту Андрусь Кавалёў, які трымаў плакат «Нашы дзяды – з намі», а таксама сябра БНФ «Адраджэньне» Сяржук Гіркін, які падаваў заяўку на правядзеньне жалобнага мітынгу. Над Гіркіным прызначаны суд. Кавалёў запрошаны «для размовы» у РАУС.

ПЦ «Вясна»

стр. 5–6

## Новая Панама – Беларускі край

Значэнне новых газапровадаў, якія планаюцца пабудаваць на тэрыторыі Беларусі, для нашай энергетыкі і эканомікі ўвогуле.

стр. 6

## Сашенька Гуща – Феникс XX века

В ноябре белорусская девочка Саша Гуща станет первым человеком в мире, удостоенным международной премии и орденского знака «Преклонение». Премию с таким названием Международная ассоциация детских фондов будет впредь присуждать детям, достойным самого высокого уважения.




стар. 2

## Самотная ўрачыстасць Дзядоў

Так і мусяць насамрэч праходзіць Дзяды. Ціха, нешматлюдна, жалобна. Так што нават тыя, хто на дух не прымае шэсцяў ды мітынгаў дэмакратаў, у гэты раз пасаромеліся кідаць людзям, якія ішлі з крыжамі ды сцягамі, нейкія кпіны. Самотна, павольна, урачыста...



Фота IREX/ProMedia

Прадстаўнікі фірмы «Мінатор-сервіс» дэманструюць гусенічную баявую машыну 2-Т, прызначаную для вядзення глыбокай разведкі і дыверсійных аперацыяў. Прэзентацыя адбылася на танкавым палігоне непадалёк ад паселка Калодзішчы, Мінскі раён, 26 кастрычніка 2000 года.

стар.2

# Нагуляліся ў «выбары»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Вось і скончылася шоу пад гордай назвай «выбары ў беларускі парламент». Як паведаміла ўчора старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына, выбары адбыліся па ўсіх акругах, і палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу аказалася сфармаванай.**

### Цудоўны другі тур

Другі тур выбараў, які прайшоў у нядзелю, 29 кастрычніка, практычна нічым не адрозніваўся ад першага. Яўка выбаршчыкаў на ўчастку пабіла ўсе рэкорды.

Ужо ў 14.00 Цэнтрвыбаркам адрапартаваў, што прагаласавала 30,92% выбаршчыкаў (пры 25% патрэбных), а пад вечар, як *звычайна*, выбаршчыкі пайшлі валам, іхняя колькасць пачала зашкальваць і ледзь не перавысіла вынікі першага тура.

Беларусь яшчэ раз даказала, што на яе тэрыторыі можа адбыцца любы цуд. У другім туры на выбары заўсёды прыходзіць менш людзей, чым у першым. Менавіта таму неабходная яўка выбаршчыкаў у другім туры была зніжаная з 50% да 25%. Але ў нас гэтая аксіёма не дзейнічае.

### Прыдумшчык Далгалёў

Можна не сумнявацца, што жаданне дзяржаўных чыноўнікаў усіх рангаў застацца на сваёй пасадзе перамагло ўсе разлікі сацыёлагаў. Напрыклад, старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Далгалёў яшчэ 24 кастрычніка падпісаў дакумент «Аб некаторых захадах па забеспячэнні другога тура выбараў». У ім губернатар патрабаваў ад кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацыяў, установаў, што месцяцца на тэрыторыях выбарчых акругаў, «у гэты дзень знаходзіцца на рабочых месцах і асабіста забяспечваць яўку на выбарчыя ўчасткі сваіх работнікаў...» Кіраўнікі гарадскіх і раённых выканкамаў павінны былі «дапамагчы ва ўдакладненні спісаў выбаршчыкаў», а таксама «прапрацаваць дакладныя схемы дзеянняў у выпадках недастатковай актыўнасці выбаршчыкаў». Дакумент нават утрымлівае пажаданне, каб у выбарчых акругах была створаная атмасфера «свята, народнага гуляння».

Як паведаміла агенцтва БелаПАН, Беларускі Хельсінкскі камітэт патрабаваў узбудзіць крымінальную справу супраць В.Далгалёва. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

# В обход с правого фланга

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Сегодня, 31 октября, председатель Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько должен встретиться с руководителем фракции Союза правых сил в Государственной думе Борисом Немцовым. Предполагалось, что перед выборами в белорусскую палату №2 Б.Немцов посетит Минск и поучаствует в заседании «круглого стола» со своим мнением о том, что белорусской оппозиции следует идти на нынешние выборы. Однако, бывшего ельцинского фаворита кто-то, видимо, убедил, что «гусей» дразнить рановато, и он решил пока в Минске не появляться. Ведь в Беларуси предстоят еще другие выборы.**

Нынешняя встреча уже не первая у правых двух союзных государств. Однако нынешняя обещает стать особой, так как в Москве все большее число действующих политиков разного толка начинают понимать, что Беларусь ожидают перемены. Их неизбежность российские союзники стали ощущать после скоротечного и вынужденного ухода с президентского поста Слободана Милошевича.

Примечательно, что предстоящая встреча должна пройти в отсутствии В.Путина и А.Лукашенко у себя дома. Как известно, один находится в Париже, а другой уехал в Триполи, на встречу с М.Каддафи, который, надо полагать, станет у А.Лукашенко новым другом. И если глава российского государства как бы своим отсутствием дистанцируется от контактов с белорусскими оппозиционерами, то отсутствие А.Лукашенко воспринимается как повод говорить о новых приоритетах его политики. В Москву стали чаще ездить оппозиционеры из Беларуси. По этому поводу А.Лебедько отметил, что «мы едем в центр, где реально принимаются решения». В том числе и по Беларуси. При этом следует сказать, что у А.Лебедько и его коллег по руководству ОГП устанавливаются нормальные контакты и с представителями российского крупного бизнеса. Именно это обстоятельство вызывает тревогу у А.Лукашенко и его окружения. Кстати, озабоченность проводимой А.Лукашенко политикой вызывает не только у правых, но и у левых политиков, бизнесменов в России. Не секрет, что оппозиционных режиму А.Лукашенко коммунистов подпитывают их соратники из России. Так что в пору говорить о возрастающей активности в отношении А.Лукашенко с двух флангов российской политики – левого и правого. Как отметили некоторые наблюдатели, белорусский посол в Москве Владимир Григорьев настолько сильно стал ощущать новые тенденции, что даже свои волосы перекрасил. Был седым, а стал брюнетом. ■

## Рэальны рэйтынг Лукашэнкі ледзь перавышае 20%

Апошняе службовае сацыялагічнае даследаванне, праведзенае беларускімі ўладамі, выклікала чарговы прыступ панікі ў адміністрацыі прэзідэнта. 15 кастрычніка, падчас галасавання ў першым туры выбараў у палату, дзяржаўныя сацыёлагі высветлілі, што рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі па ўсёй краіне ледзь-ледзь дасягае 22%.

Апытанне праводзілася пры ўдзеле Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі дзеля таго, каб дапоўніць лічбамі аналітычную запіску для беларускага кіраўніка аб становішчы ў краіне. Сацыёлагі апыталі патрэбную па навуцы колькасць людзей і зрабілі высновы – нават пасля інтэнсіўнай прапагандысцкай апрацоўкі напярэдадні выбараў А.Лукашэнку вераць каля 22% грамадзянаў Беларусі. Самы нізкі давер – у Мінску і Брэсце, ён складае крыху больш за 10%.

Вынікам гэтага апытання стала, як ужо казалася, сапраўдная паніка ў атачэнні А.Лукашэнкі. Зараз распрацоўваюцца меры па папулярызацыі цяперашняй улады. Адсюль, дарэчы, аднолькавыя доўгія маналогі кіраўніка краіны па нацыянальным тэлебачанні, якія, на думку ідэолагаў, павінны выратаваць сітуацыю. Абяцанні А.Лукашэнкі падвысіць заробак да 100 долараў – з той самай оперы. ■

Хартыя'97

## НАВІНЫ

■ **План па будаўніцтве жытла сёлета зноў не выконваецца.** На кастрычнік будаўнікамі здадзена толькі 70% ад таго, што прадугледжвалася ўрадам. У небудаўнічых галінах, дзе таксама маюць урадавае заданне будаваць кватэры для сваіх працоўных, і за тое горш – толькі 22%.

■ **За гэты год у Магілёве значна павялічылася колькасць стратных прадпрыемстваў.** Прычым павялічылася ў 2 разы: калі на 1 студзеня 2000 года ў горадзе былі 52 такія прадпрыемствы, то зараз іх ужо 92. Страты гарадскога бюджэту праз гэта склалі болей 2 мільярдаў рублёў.

■ **24 кастрычніка ў Беларусі, маючай адно што рачны флот, з'явіўся першы карабель тыпу «рака-мора».** Зроблены ён на Гомельскім суднабудаўнічым і суднарамонтным заводзе.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1090



# Чарка і шкварка

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Даўно гэта было. Так даўно, што дзеці, которыя ў той год нарадзіліся, ужо ў школу ходзяць. А было так, што мы выбралі на сваё гора (успомніць смешна) прэзідэнта. Пераймалі тады разумныя людзі скліканых дэпутатаў, хіба што за рукі не трымалі, казалі: нашто? Нашто ўводзіць тое прэзідэнцтва? Муляе вам? Лейцы рве? Перуном смаліць? Хай будзе парламенцкая Рэспубліка. Пільнуйце сабе адзін аднаго, каб у краіне ўсё дашчэнту не скамунісцілі. І годзе. А потым, пазней, мы крыху разумнейшых заміж вас навыбіраем. Глядзіш, і наладзіцца новае жыццё гадоў праз «...нацаць». Дасць Божа, акрыяем.

Але ж мода тады пайшла на прэзідэнтаў скрозь па ўсёй Саўдзіпіі. Наразводзілася іх, як алкашоў каля піўніцы. Крутом былі адны прэзідэнты. Самы галоўны – у Маскве. Дык як жа было нашым аматарам не паддацца? Усё сваё партыйнае жыццё яны Маскве пад хвост заглядалі, дзьмухалі туды і фукалі, а тут – прымай самастойнае рашэнне і рабі пасвойму! Каму было рабіць? Дземянцею? Кебічу? Сакалову? Малафееву? А можа таму зампаліту Качану, які сваім салдатам забараняў глядзець «Каліну красную», бо гэты фільм «развращает маладое пакаленіе»?

А на той час было, як успомніш, дык не так ужо і блага. Пад сто даляраў сярэдняя зарплата (а за сотку можна было ўсю сям'ю месяц карміць ад пуза). У крамах, памятаю, пайшло ўсякае смакаццё. Многія беларусы тады ўпершыню паспрабавалі ікру, ананасы, мясныя ды рыбныя дэлікатэсы, крэветкі, чэшскае і нямецкае піва... Адно, што інфляцыя скакала кожны дзень: хімічылі нешта з эканомікай. Мяснікоўцы тады давалі дусту. Замяталінцы падскоквалі, каб сонца свабоды вушамі закрыць. А так – жыць можна было. Але ж хацелася большага парадку. Каб мяснікоўцаў і замяталінцаў крышку суцішылі. Каб наменклатура меру ведала.

А яно вось як атрымалася! От калі тазік купіш, ды ў кут паставіш, дык вады туды наліць – адна хвіліна. Так і тут: толькі ўвялі прэзідэнцтва, адразу прыбягае адзін успацелы праўдалюб з «чумаданамі кампрамату» і – раз! Шахер-махер, пстрыкельдрыкель! І нам да тых самых мяснікоўцаў і замяталінцаў мігам навесілі ціцянкоўцаў з шэйманаўцамі. Усё добрае пахерылі, а замест усунулі аднадзённы клопат: «немножко мясца дзеткам, чарку і шкварку».От круцялі ў нашых калгасах гадуюцца, а! На бабульках, між іншым, трэніраваныя. Дзе такіх яшчэ знойдзеш? Замест свабоднай незалежнай парламенцкай Рэспублікі Беларусь – чарку і шкварку!

# З кім будзем ваяваць?

**Міхась КАРПОВІЧ**

Новая баявая машына 2-Т для правядзення разведкі і аперацыяў у тыле праціўніка была прадстаўленая 26 кастрычніка ў Мінску. Яе вырабілі беларускія спецыялісты абароннай прамысловасці ў супрацоўніцтве з расійскімі і ўкраінскімі калегамі.

Бронемашына мае гусенічны ход, развівае хуткасць да 95 км/г і можа запар праехаць да тысячы кіламетраў. Яна ўзброеная аўтаматычнай гарматай, кулямётам, устаноўкай для супрацьтанкавых і зенітных ракетаў, а таксама аўтаматычным гранатамётам. Баявы экіпаж – чатыры чалавекі. Па словах вайсковых экспертаў, пры вырабе 2-Т былі выкарыстаныя некаторыя элементы тэхналогіі *Stealth*, што дазваляе зрабіць яе амаль незаўважнай для радараў праціўніка. Сучасныя электронныя сістэмы, усталяваныя на машыне разведкі, дазваляюць перадаваць інфармацыю ў закадзіраваным выглядзе непасрэдна з борта 2-Т. Па словах распрацоўшчыкаў новай тэхнікі, 2-Т не будзе ствараць канкурэнцыю для сучасных баявых машынаў пяхоты – гэта машына прынцыпова новага класа.

Дэманстрацыя новай тэхнікі прайшла вельмі эфектна. У гледачоў шоу засталося толькі адно пытанне – з кім збіраецца ваяваць Беларусь з дапамогай такой тэхнікі, каму будзем заходзіць у тыл? ■

# Запазычанасць па заробку – 2 мільярды

## І гэта толькі ў Гомельскай вобласці

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

У Гомельскай вобласці запазычанасць па зарплаце дасягнула 2 мільярды рублёў. З іх 1,5 мільярда – даўгі ў АПК. Сярод даўжнікоў фігуруюць некалькі буйных прамысловых прадпрыемстваў Гомеля, а найбольш складанае становішча назіраецца ў 8 раёнах вобласці.

Такая сітуацыя выклікае вялікую заклапочанасць у Гомельскім аблвыканкаме, бо ў верасні, згодна з распараджэннямі прэзідэнта, запазычанасць па зарплаце ў вобласці была поўнасцю ліквідаваная. Кіраўнік аблвыканкама Мікалай Вайцянкоў даў тэрміновае даручэнне разабрацца ў прычынах узнікшай запазычанасці і прыняць меры да яе найхутчэйшай ліквідацыі. «Мы не павінны дапусціць адкат з занятых пазіцыяў», – падкрэсліў М.Вайцянкоў. ■

# Самотная ўрачыстасць Дзядоў





Фота REX/ProMedia

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Напэўна, так і мусіць насамрэч праходзіць Дзяды. Ціха, нешматлюдна, жалобна. Так, што нават тыя, хто на дух не прымае шэсцяў ды мітынгаў дэмакратаў, у гэты раз пасаромеліся кідаць людзям, якія ішлі з крыжамі ды сцягамі, нейкія кпіны. Самотна, павольна, урачыста...

Перакрыжаванне вуліцы Талбухіна і праспекта Ф.Скарыны стала гэтым разам месцам збору для адной з самых даўніх і традыцыйных акцыяў беларускіх дэмакратаў – Дзяды. Калона з 2.000-2.500 чалавек з драўлянымі крыжамі, якія мелася ўстанавіць на магілах нявінных ахвяраў у Курапатах, выйшла на праезную частку праспекта і, заняўшы там адну паласу, павольна і ўрачыста рушыла ва ўрочышча.

Шэсце працягвалася больш за дзве гадзіны, і, хоць некаторыя людзі паступова разыходзіліся па дамах, амаль у поўным складзе дайшло да свайй мэты. Крыжы былі ўсталяваныя, кветкі на магілы ўскладзеныя, памяць ушанаваная. На мітынгу выступілі кіраўнікі партыяў БНФ і КХП-БНФ, кіраўнік «Мартыралогу Беларусі» Мая Кляшторная. Спакойна, ціха, урачыста. Дзяды... ■

# Бярозаўскія трагедыі

## Мех цукру забіў чыноўніка

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Раніцай у нядзелю раптоўна памёр 60-гадовы намеснік старшыні Бярозаўскага райвыканкама (Брэсцкая вобласць) Іван Юшкевіч. Сэрца апаратчыка, які курыраваў сацыяльную сферу, не вытрывала фізічную нагрузку ў момант падняцця ім меха цукру ва ўласным гаражы.

Тым часам яшчэ не завершана следста па крымінальнай справе кулявога забойства 15 кастрычніка, у дзень выбараў, генеральнага дырэктара дзяржаўнага прамысловага прадпрыемства «Бярозабудматэрыялы» Васіля Басалая. Нагадаем, што ў тую ноч член «верхняй палаты» Нацыянальнага сходу не начаваў дома з нагоды сяброўскага палявання з кампаніяй гасцей з Мінска. Урэшце, адзін з іх прызнаўся ў выпадковым стрэле, з-за якога і загінуў В.Басалай.

Пракурорскае следства, аднак, не спяшаецца абвяргаць чуткі, якія напрамую звязваюць смяротнае паляванне з разбэшчанасцю кіруючага чыноўства. Вядома, што для адпачынку на прыродзе былі выкарыстаныя карабіны СКС-10, забароненыя для палявання, якія маюць прыборы начнога бачання. Месца для палявання зноў-такі было абранае «элітнае» – урочышча Гута-Міхаліна ў раёне Пружанскага ваеннага палігона. Па чутках, у аўтамашыне з патушанымі фарамі, побач з Васілём Басалаем знаходзілася і жанчына. І калі ў 2 гадзіны ночы шалёная куля прашыла левую грудзіну чалавека за рулём, то, напэўна, не адна толькі цемра вінаватая ў гэтым. Пра ролю алкаголю ў гэтай трагедыі следчыя распавядаць не жадаюць. ■

# Галандцы патрабуюць ад Лукашэнкі шчырасці

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Больш за трыста жыхароў невялічкага галандскага гарадка Нутдорп даслалі праз арганізацыю *Amnesty International* ліст сем'ям прапаўшых без звестак беларускіх апазіцыйных палітыкаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, а таксама бізнесмена Анатоля Красоўскага. У ім жыхары гэтай еўрапейскай краіны выказваюць сем'ям палітыкаў спачуванне і падтрымку. «Як толькі мы даведаліся пра лёс вашых бацькоў і мужоў, адразу ж даслалі ліст Аляксандру Лукашэнку, у якім пратэстуем супраць цяперашняга ходу падзеяў!» – гаворыцца, у прыватнасці, у лісце.

Жыхары Нутдорпа ў пісьме на імя А.Лукашэнкі патрабуюць недатыкальнасці палітыкаў, калі яны насамрэч знаходзяцца пад вартай, альбо тэрміновага і ўсебаковага расследавання ў атмасферы поўнай галоснасці абставінаў знікнення гэтых людзей. ■

# 40 брэсцкіх вучняў могуць захварэць на шаленства

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

42 вучні сярэдняй школы №9 Брэста пройдуць курс антырабічнай вакцынацыі, паколькі ўсе яны могуць захварэць на шаленства.

Як паведамілі БелаПАН у абласным Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, двое школьнікаў і навучэнец чыгуначнага тэхнікума знайшлі лісу ў паляўнічай пастцы, побач з дачным таварыствам «Ивушка» Брэсцкага раёна. Спробы зняць з яе скуру былі беспаспяховымі, таму хлопцы адрэзалі ў жывёлы хвост. У мінулыя панядзелак і аўторак хвост «гуляў» па школе, паколькі гэтага не заўважыла медработнік. Яна сказала дзецям, што трэба праверыць, ці не была ліса хворая на шаленства. Школьнікі самі пайшлі ў Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, паколькі там працавала маці аднаго з іх. Труп лісы адкапалі і даследавалі на шаленства: аналізы пацвердзілі найгоршыя меркаванні медыкаў.

На сёння выяўлена 42 чалавекі, якія гулялі з хвастом (як вядома, каб заразіцца вірусам шаленства, дастаткова толькі пагладзіць жывёлу). Усім ім давядзецца прайсці курс вакцынацыі. Тым, хто разбіраў труп, – да 12 прышчэпак, астатнім – да 7-мі. Гэтыя прышчэпкі, паводле словаў медыкаў, небяспечныя для здароўя і не даюць 100-працэнтнай гарантыі таго, што людзі не захварэюць на шаленства.

Сёлета ў Брэсцкай вобласці выяўлена каля 40 выпадкаў захворвання шаленствам сярод жывёлаў. У кантактах з імі былі больш чым 250 чалавек.

БелаПАН

# Скарачэнне беларускага войска

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН**

Узброеныя Сілы Беларусі будуць скарочаныя. Пра гэта 29 кастрычніка падчас размовы з журналістамі на выбарчым участку ў Акадэміі фізкультуры і спорту ў Мінску заявіў Аляксандр Лукашэнка. Паводле ягоных словаў, недапушчальна ўтрымліваць войска пры яго цяперашняй колькасці (больш за 80 тысяч ваеннаслужачых. – БелаПАН). Кіраўнік дзяржавы не сказаў, калі плануецца пачаць скарачэнне і якім чынам яно будзе праводзіцца.

Мяркуючы па словах А.Лукашэнкі, асновай Узброеных Сілаў Беларусі стануць прафесійна падрыхтаваныя мабільныя злучэнні і часці. Так, А.Лукашэнка нагадаў, што пяць гадоў таму ў беларускім войску былі створаныя мабільныя сілы (на базе 103-й Віцебскай паветрана-дэсантнай дывізіі і 38-й дэсантнаштурмавой брыгады ў Брэсце. – БелаПАН). Цяпер, па словах кіраўніка дзяржавы, улады пераканаліся – «гэта тое, што трэба для нашай краіны». У будучым, паведаміў А.Лукашэнка, некаторыя часці беларускага войска будуць «абсалютна прафесійныя» – складацца выключна з кантрактнікаў, некаторыя – з кантрактнікаў і ваеннаслужачых тэрміновай службы.

Закранаючы пытанне аб комплекснай праверцы Узброеных Сілаў, ініцыяванай сёлета вясною кіраўніком Беларусі, ён паведаміў, што цяпер у войсках працуюць дзве камісіі пад начальствам прэм'ера Уладзіміра Ярмошыны і дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана. Пакуль сур'ёзных заўвагаў няма. «Ваенныя добра падрыхтаваліся да інспекцыі», – канстатаваў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама паведаміў, што бліжэйшым часам наважана асабіста наведаць некаторыя часці Узброеных Сілаў. ■

# Уводзяцца новыя карткі

## Тэлефонныя

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**

З 1 лістапада ў Мінску ўводзяцца ў дзеянне тэлефонныя карты вялікай ёмістасці для універсальных таксафонаў, маючых вадкакрышталічны індыкатар.

Як паведамілі БелаПАН у рэспубліканскім дзяржаўным аб'яднанні «Белтэлекам», падставай паслужылі шматлікія нараканні на якасць цяперашніх тэлефонных карт і малая функцыянальнасць гарадскіх таксафонаў.

Універсальныя таксафоны, што дазваляюць званіць як па горадзе, так і ў іншыя рэгіёны Беларусі, з'явіліся паўтара года таму. Званкі ажыццяўляліся пры дапамозе гарадской тэлефоннай карты, але з-за вялікай розніцы ў тарыфах арганізаваць размовы з абанентамі з іншых краінаў не было магчымасці: звычайнай карткі хапіла б на некалькі секундаў размовы.

Карты вялікай ёмістасці дазволяць выправіць становішча. На першым этапе плануецца выпуск карт на 500 і 750 тарыфных адзінак. Карта на 500 адзінак разлічаная на 8,5 гадзіны размоваў унутры горада, або на 7 гадзінаў размоваў па вобласці, або на 3 гадзіны 40 хвілінаў размоваў па рэспубліцы, або на 10 хвілінаў сувязі з Расіяй, або на 8 хвілінаў – з Еўропай, або на 2 хвіліны – з ЗША.

Кожная карта будзе прадавацца ў адмысловай плёначнай упакоўцы, што, паводле словаў прадстаўнікоў РА «Белтэлекам», стане гарантыяй іх працаздольнасці. Карыстацца імі можна толькі з універсальных таксафонаў. У Мінску іх зараз каля 500, а да канца года стане 700.

З 1 лістапада старыя таксафонныя карты будуць прыгодныя толькі для званкоў па горадзе са звычайных і універсальных таксафонаў.

З 27 кастрычніка новыя карты прадаюцца ў кіёсках РА «Белпошта», у аддзяленнях сувязі і пунктах калектыўнага карыстання РА «Белтэлекам». Кошт карты на 500 адзінак – 2.610, на 750 – 3.750 рублёў.

У хуткім часе такія карты павінны з'явіцца і ў іншых абласных цэнтрах краіны. ■

# Последний шанс Барака

Артем ВЕРНИДУБ

**На жертвы готовы не только израильтяне. Один из чиновников Палестинской автономии — министр международного сотрудничества Шабиль Шаат недавно проговорился: «Во имя осуществления своих законных национальных чаяний палестинский народ готов на новые жертвы – это наш главный козырь». И палестинцы продолжают гибнуть.**



Новый всплеск насилия произошел в воскресенье вечером. Беспорядки в секторе Газа и на западном берегу реки Иордан продолжались до поздней ночи. По данным палестинской стороны, были убиты семь человек и около 150 ранены.

В секторе Газа мятежники попали под обстрел колонны израильских войск (среди жертв был 14-летний подросток). Помимо камней и бутылок с зажигательной смесью палестинцы все чаще используют огнестрельное оружие, поэтому к перекрестку Карми и к другим очагам насилия были стянуты танки и бронетранспортеры. Продолжается танковая блокада одного из самых конфликтных населенных пунктов – города Рамалла. А израильские военачальники делают очередные грозные заявления.

«Армия не будет довольствоваться политикой ответного удара, а возьмет инициативу в свои руки, причем первым объектом этой инициативы станут боевые отряды движения «Аль-Фатах», возглавляемого Арафатом»,– заявил начальник генштаба Шаул Мофаз, выступая по израильскому телевидению. Поводом для фактического объявления войны могла стать мученическая смерть молодого израильтянина, обгоревший труп которого был найден в автомобиле неподалеку от Рамаллы. В этом городе разъяренная толпа уже линчевала двух израильских военнослужащих, и израильтяне считают, что это третий случай.

Убитого звали Марк Габриэлов. Ему было 25 лет. Он выходец из СССР, десять лет назад приехал из Самарканда и работал в типографии. Убийцы всадили в Габриэлова 25 пуль, после чего сожгли (опознать его смогли только по зубам). Израильтяне не сомневаются, что это убийство на национальной почве. Палестинцы (труп был передан сотрудниками палестинской полиции) утверждают, что М.Габриэлова убили в криминальной разборке и что он был связан с наркомафией. В доказательство один из палестинских чиновников заявил, что, «будь это убийством на националистической почве, израильтяне подняли бы вокруг него невиданный шум».

Однако шум еще впереди. Вчера открылась зимняя сессия кнессета, на которой может быть поставлен вопрос об отставке правительства Эхуда Барака. Израильские СМИ пишут, что нынешнего главу кабинета поддерживают лишь 30 депутатов, и, чтобы хоть как-то выправить положение, Барак вынужден идти на большие уступки правым и их лидеру Ариэлю Шарону. За неделю переговоров Эхуд Барак выполнил почти все условия правых, однако соглашение о коалиционном правительстве (правительстве чрезвычайного положения) до сих пор не подписано. Действительно, зачем правым вступать в кабинет под руководством Барака, когда есть возможность сделать свой. По мнению наблюдателей, если Барак не успеет договориться с Шароном до начала заседания кнессета, то есть к 16.00, ему вынесут вотум недоверия.

Для палестинцев это означает новые жертвы. Шарон и его сторонники и слышать не хотят ни о каких переговорах с палестинцами. А тем временем палестинцы наметили новую дату объявления независимости – 15 ноября, причем в границах 67-го года, а не в границах нынешней автономии. ■

# ЕС, Сербия и Балканы

Крис ПАТТЕН,
член Европейской комиссии, ответственный за внешние связи

**С десятилетним отставанием от прочих посткоммунистических стран Европы, Сербия должна начать обустройство открытого, демократического общества. ЕС прямо дал понять о своей готовности помочь демократической Сербии воссоединиться с европейской семьей.**

ЕС знаменует собой одну из самых удачных в истории попыток, предпринятых странами и народами на пути преодоления разобщенности, когда развитие партнерства и сотрудничества выводит конкуренцию из плоскости батальных конфликтов на уровень честного состязания. После крушения коммунизма мы приступили к оказанию помощи странам Восточной Европы в деле установления демократии и осуществления перехода к рыночной экономике. Мы занимались этим с такой же решимостью и с такой же верой в успех, с какими Соединенные Штаты возрождали Западную Европу после Второй мировой войны.

За десять лет, прошедших после падения Берлинской стены, эти страны трансформировались и ныне находятся на пути присоединения к ЕС. Мы говорили себе, что война в Европе теперь невозможна. Но она началась на Балканах. В Европе изгнана еще не вся нечистая сила.

За десять лет войны мы стали скромнее, мудрее (я надеюсь), но теперь мы с гораздо большей решимостью готовы начать новую страницу, работать совместно со странами и народами Юго-Восточной Европы не для того, чтобы спасти их, но для того, чтобы трансформировать. Именно об этом говорится в Пакте стабильности — в нем признается, что необходимо решительно взяться за решение проблем региона, что борьба с кризисом после его начала обходится гораздо дороже осуществления долгосрочной стратегии по поддержанию мира.




● Югославский народ требует перемены руководства

Наша главная стратегия ясна: построить крепкую и стабильную систему демократий в регионе, в которую, мы надеемся, отныне войдет и Сербия. Мы начинаем осуществление этой стратегии с построения (в прямом и переносном смысле) дороги в Юго-Восточной Европе, ведущей к интеграции с остальной Европой и Евро-Атлантическим сообществом. Эта дорога построена на основе прочных реформ, подкрепленых существенной финансовой помощью.

С 1991 года мы израсходовали в регионе примерно 8 миллиардов евро на реконструкцию и гуманитарную помощь; финансовая поддержка региона Европейским Союзом за эти годы в совокупности составила 17 миллиардов евро. В этом году Европейская Комиссия выделила примерно 600 миллионов евро на восстановление жизни в Косово и Боснии, на поддержку недавно избранных отважных лидеров Хорватии, на поддержку реформ в бывшей Югославской республике Македонии и в Албании.

ЕС предоставил значительную финансовую поддержку Черногории, когда правительство страны оказало сопротивление Милошевичу. В этом году финансовая помощь Черногории со стороны ЕС удвоилась и составила 20 миллионов евро. Европейский Совет в Лиссабоне распорядился о выделении дальнейшей помощи, направленной на смягчение неотложных финансовых проблем в Черногории. Подобную помощь мы готовы предоставить и Сербии.

Европа вкладывает немалые деньги в пакет проектов «Быстрого старта» — готовых начаться немедленно или в ближайшие 12 месяцев работ, направленных на модернизацию мостов, дорог, аэропортов, систем водоснабжения и линий электропередач по всему региону. Не менее важны проекты по установке институционального «программного обеспечения» — государственной администрации, свободных средств массовой информации, независимой судебно-правовой системы, функционирующих, ответственных институтов, в которые смогут поверить и на которые смогут положиться все члены сообщества. Европейская Комиссия дала торжественное обещание предоставить 530 миллионов евро на обеспечение проектов в рамках программы «Быстрого старта».

Недавно мы одобрили радикальное предложение о расширении торговых связей стран региона с рынками ЕС. Оно вступает в силу 1 ноября.

Через 18 месяцев после бомбежек Косово мы начали делать успехи. Перемены в Сербии дают основания полагать, что сербы также заметили происходящие в регионе перемены и более не желают оставаться вне игры. Мы также не желаем, чтобы они упустили возможность установить лучшие связи с Европой. ■

© Project Syndicate

ІНТЭРФАКС

## Імігранты абіраюць Італію

Колькасць імігрантаў, якія пражываюць у Італіі на законных умовах, дасягнула летась 1,5 мільёна чалавек, што складае 2,6% ад агульнага насельніцтва краіны. Такія дадзеныя распаўсюдзіла каталіцкая місія *Caritas*. Гэта адзін з самых нізкіх у Еўропе паказчыкаў, аднак наглядаецца тэндэнцыя да яго няўхільнага росту. Так, у параўнанні з 1998 годам ён павялічыўся на 19,2%. Як высветлілася, большую частку імігрантаў у Італіі складаюць выхадцы з Марока (137 тысяч чалавек). За імі ідуць філіпінцы (72 тыс.), жыхары былых югаслаўскіх рэспублік (65 тыс.), румыны (61 тыс.) і паўночнаамерыканцы (56 тыс.). Згодна з дакладам, 53% імігрантаў пабраліся шлюбам з італьянцамі, прычым чвэрць з іх маюць дзяцей. Місія *Caritas* таксама паведамляе, што 36,5% імігрантаў спавядаюць мусульманства, 27,4% ёсць каталікамі, яшчэ 22,1% – паслядоўнікі іншых хрысціянскіх цэркваў. Не каментуючы ўзрастанне колькасці мусульманаў у краіне, місіянеры адзначаюць станоўчае значэнне іміграцыі, лічачы, што яна неабходная «дзеля падтрымкі дэмаграфічнай раўнавагі ў Італіі». ■

## Мэрам сталіцы выбраны філосаф

Былы кандыдат у віцэ-прэзідэнты Калумбіі, філосаф і матэматык літоўскага паходжання Антанас Моцкус на выбарах, якія адбыліся ў нядзелю, быў выбраны мэрам калумбійскай сталіцы.

Тры гады таму А.Моцкус пакінуў пост гарадскога кіраўніка, каб балатавацца ў віцэ-прэзідэнты. Выбранне гэтага навукоўца, які не належыць ні да адной палітычнай партыі, здзівіла многіх наглядальнікаў, але перш за ўсё – самога новага мэра Багаты. Пры гэтым ён змог атрымаць на 150 тысяч галасоў больш, чым яго галоўны сапернік – былы міністр замежных справаў Калумбіі Марыя Эма Мехія.

Антанас Моцкус вядомы ў сталіцы як даволі эксцэнтрычны дзеяч. Калі ён быў рэктарам Нацыянальнага ўніверсітэта, то аднойчы прадэманстраваў студэнтам свае ягадзіцы. А іншым разам спыніў галадоўку навучэнцаў тым, што з'явіўся да іх, жуючы шакаладку. Стаўшы мэрам сталіцы, А.Моцкус прыйшоў аднойчы на аўдыенцыю да Эрнеста Сампеpу, які ў той час быў прэзідэнтам Калумбіі, узброіўшыся пластыкавай шабляй ружовага колеру. Сваю шлюбную цырымонію ён наладзіў у цырку, куды з'явіўся вярхом на слане.

Падчас цяперашняй перадвыбарчай кампаніі А.Моцкус таксама не аднойчы прыцягваў увагу публікі сваімі арыгінальнымі выхадкамі. Так,ён выступаў, апрануўшыся ў касцюм маркоўкі. У цэнтры сталіцы кандыдат у мэры правёў цырымонію, падчас якой ён папрасіў у жыхароў Багаты прабачэння за сваю адстаўку 1997 года. Для гэтага ён залез у фантан і падвергся абмыванню прадстаўніцай аднаго з індзейскіх плямёнаў, адзначае агенцтва ЭФЭ. ■

## Выстава карцінаў Пола Макартні

Мастацкую галерэю *Walker* у брытанскім горадзе Ліверпулі абраў для першага паказу сваіх карцінаў былы ўдзельнік гурта *The Beatles* Пол Макартні. Адкрываючы экспазіцыю, ён прыгадаў, што калісьці разам з легендарным Джонам Ленанам яны «праводзілі многа часу, прагульваючыся менавіта па гэтай галерэі». Як высветлілася, свае мастацкія здольнасці музыкант доўга трымаў у сакрэце. «Я нікому не казаў аб тым, што малюю, на працягу, мабыць, 15 гадоў», – прызнаўся П.Макартні. Многія з карцінаў, якія змогуць убачыць жыхары і госці Ліверпуля, ніколі не выстаўляліся. Яны адлюстроўваюць розныя этапы творчага шляху музыкі-мастака і ягоныя любімыя месцы ў родным горадзе. ■

## Італьянская армія будзе прафесійнай

Італьянскі Сенат ухваліў праект закона аб паэтапнай адмове ад усеагульнага вайсковага абавязку і пераходзе ў тэрмін да 2007 года да цалкам прафесійнай арміі. Раней гэты праект быў ужо зацверджаны палатай дэпутатаў. Такім чынам урад можа распачаць распрацоўку канкрэтных законаў, якія дазволяць адмовіцца ад закліку на службу ў войска, які быў уведзены ў Італіі ў 1802 годзе. Паралельна на працягу бліжэйшых шасці гадоў асабовы склад італьянскіх узброеных сілаў будзе скарочаны з 270 да 190 тысяч чалавек. Іх галоўную масу, апроч кадравых ваенных, будуць складаць кантрактнікі-добраахвотнікі. Скарачэнне колькаснага складу арміі і павышэнне яе прафесіяналізму ўваходзіць у тэндэнцыю, якую ўхваляе камандаванне NATO. Яно настойвае на стварэнні больш кампактных і болей манеўраных узброеных сілаў, якія лягчэй выкарыстоўваць у аперацыях па падтрымцы міру. ■

## Магілкі гіганцкіх дыназаўраў

У аргенцінскай правінцыі Неукен актыўна вядуцца раскопкі пахавання буйнейшых дыназаўраў, якія існавалі на нашай планеце 80 мільёнаў гадоў таму. Адначасова заолагі працуюць над узнаўленнем шкілетаў гэтых жывёлаў. Целы гіганцкіх дыназаўраў, якія атрымалі назву *аргенцінazaўраў*, дасягалі ў даўжыню 40 метраў і важылі 80–100 тонаў. Харчаваліся яны кустоўем і галінкамі дрэваў. Натуральнае пахаванне аргенцінazaўраў было выпадкова знойдзенае ў 1993 годзе. Іхнія магілкі ля патухшага вулкана займаюць 20 км². Актыўныя работы аргенцінскія палеантолагі вядуць дзякуючы фінансавай дапамозе некаторых музеяў ЗША і Канады. Знаходка адвяргае версію навукоўцаў аб тым, што гіганцкія дыназаўры былі драпежнымі жывёламі, якія вялі адзінокі вобраз жыцця і былі вельмі агрэсіўнымі, у тым ліку і ў дачыненні да сабе падобных. Магілкі аргенцінazaўраў пацвярджаюць, што яны жылі абшчынай. Сярод шматлікіх костак гэтых гігантаў знойдзеныя зубы, а таксама кавалкі шкарлупіны яек, на якіх захаваліся адбіткі целаў зародышаў. ■

# Сашенька Гуща – Феникс XX века

В ноябре белорусская девочка Саша Гуща станет первым человеком в мире, удостоенным международной премии и орденского знака «Преклонение». Премию с таким названием Международная ассоциация детских фондов будет впредь присуждать детям, достойным самого высокого уважения

Наталья РАДИНА

**14 октября 1987 года в минском пригороде Лошица в старом деревянном доме взорвались холодильник и телевизор. Молодая хозяйка в это время во дворе стирала пеленки. Она вбежала в горящий дом, чтобы спасти одиннадцатимесячную дочку, и на пороге рухнула без сознания. Соседи успели вынести из огня горящий сверток с девочкой...**



## Вопреки приговору

За полгода, которые Саша провела в больнице после пожара, ей сделали 8 операций. Малышка закрывалась от огня ручками и они обгорели. Горящая девочка кричала от боли, и у нее обгорела гортань. Полностью сгорела лобная и теменная часть головки. Лица у девочки тоже не было...

Саше сделали 20 трепанаций черепа. Хирург ожогового отделения говорил родителям: «Если ваша девочка выживет, то, наверно, она проклянет меня и вас за то, что мы ее спасли». Но мать падала перед ним на колени, целовала ему руки — в них находилась жизнь ее Сашеньки.

Полгода Наталья Григорьевна прожила в больнице на полу у кроватки дочери. Там ее и с работы уволили. «Навестили» работники отдела кадров камвольного комбината, на котором она работала, и «предложили» уйти по собственному желанию. Комбинат решил подстраховаться и избавиться от работницы, у которой ребенок — тяжелый инвалид.

Сашу спасли, но она осталась «девочкой без лица» — одна страшная маска. После восьми операций малышке были необходимы грязевые и радоновые ванны, которые бы помогли рассосаться швам. Путевки в Сочи, в единственный в СССР санаторий для обожженных детей, были страшно дорогими. А что могла позволить себе семья из пяти человек, у которой все сгорело? Министерство здравоохранения БССР отказалось предоставить обгоревшему грудному ребенку бесплатную путевку. Один «сердобольный» чиновник минздрава посоветовал несчастной матери: «Отдайте ребенка в детдом. Никто вас не осудит. Люди и здоровых детей сдают». Больше Наталья Григорьевна в минздрав не ходила... В Сочи они съездили на деньги Детского фонда.

К кому только ни обращались родители Саши за помощью! Лучшие клиники Москвы, Ленинграда, Киева отказывались помочь: «Ничего нельзя сделать, медицина бессильна, у нас нет такого оборудования. Вам бы в Америку...». Жизнь Натальи Григорьевны превратилась в кошмар. Она должна была всюду оберегать Сашеньку от взрослых и малолетних злобных ублюдков. Не все жалели изуродованного огнем ребенка. Однажды в троллейбусе на них с криком «Ты свое дитя от собаки родила!» с кулаками набросился пьяный мужик... А сколько пришлось выслушать в очередях за продуктами подлых слов: «Ты специально эту с собой таскаешь, чтобы тебе очередь уступали!»

Подобные своим родителям дети во дворе норовили побить маленькую Сашу. Но даже горсть песка, брошенная ей в лицо, оставляла на нежной кожице лица ссадины, которые кровоточили и гноились неделями...

Спустя четыре года специальная комиссия минздрава выдала родителям официальное заключение о бессилии отечественной микрохирургии перед ожогами. Согласно заключению, помочь Саше могли только в Америке, и маме с дочкой выдали визу (без материального обеспечения) на лечение в Штатах. Саше повезло: про девочку, которая нуждалась в сложных операциях, напечатали статьи газеты «Труд» и англоязычная «Нева ньюс». Американский доктор Кэрби предложил провести бесплатное лечение Саши в Шрайнеровской клинике в Портленде, штат Орегон.

Американские врачи предупредили: Саше предстоит сделать больше 60 операций. На это потребуется семь лет. С мужем, старшими дочкой и сыном Наталья Григорьевна расставалась словно навсегда. Что двигало женщиной? Сашина молитва, которую она однажды подслушала: «Боженька, — шептала пятилетняя Саша, — сделай меня красивой девочкой, чтобы меня никто не бил и моя мама не плакала...»

В Америку ехали с 250 долларами, которые выделил Детский фонд и фонд «Детям Чернобыля». Лечебная виза права на работу Наталье Григорьевне не давала.

## Лечение в Америке

Американские врачи согласились оперировать Сашу, когда увидели сашины рисунки. Постепенно хирурги-пластики стали делать Саше ладошки, из кусочка ее ребра – носик... Поначалу они предполагали сделать 45 операций. Сейчас, когда уже сделано 30, говорят, что это далеко не половина. Стоимость операций – 3,5 миллиона долларов. На такую дорогую благотворительность клиника не согласилась и предложила матери искать спонсоров. Наталья Григорьевна написала письмо президенту США Биллу Клинтону. И — получила ответ: лечение Саши в частной клинике оплатит американское государство.

Девочка, которой белорусские врачи пророчили умственную отсталость, в 4 года уже читала. Не имея пальцев, она рисовала так, что трижды стала победительницей конкурса рисунков, который ежегодно устраивала Шрайнеровская клиника. В этом конкурсе участвовало несколько тысяч маленьких пациентов клиники, но только Сашины рисунки стали расходиться по Америке открытками тиражом в сотни тысяч экземпляров.

## С днем рождения!

25 октября Саше исполнилось 14 лет. Семиклассница Саша учится только на «отлично». Она не хочет жалости учителей, отказалась от освобождения от физкультуры. Наравне со всеми бегает, плавает и даже бросает диск... Саша танцует и играет в школьных спектаклях, вяжет крючком салфетки, вышивает, мастерит декоративные коврики. Она – фанатка группы *Backstreet Boys*. И еще она пишет стихи. Ее рисунки выставлялись в Канаде, Германии, Франции и Южной Корее.

У Саши множество друзей. Мальчишки ее уважают. Еще в первом классе они не давали ее никому в обиду, каждый день по очереди провожали домой. «Я могу сделать официальное заявление, — шутит Саша, — если бы не школа, ребята, я бы, наверно, одна дома сошла с ума ...».




«Распятый Христос». Рисунок Саши Гуща

## На коленях

«Каждый раз я ползу в Америку на коленях!» — говорит Наталья Григорьевна. С февраля она начинает обивать пороги предприятий, фирм, банков, прося денег на поездку в американскую клинику. В клинике ее и Сашу предупреждают: «Если будете постоянно откладывать поездки из-за отсутствия денег, мы исключим вас из списка пациентов. У нас полно желающих лечиться».

Министерство здравоохранения Республики Беларусь на лечение девочки средств не выделяет совсем. За 13 лет ей не выделили даже бесплатной путевки в оздоровительный санаторий, бесплатных витаминов или лекарств по льготной цене ей не полагается. «В такой ситуации оказалась не только моя Саша. У моей подруги дочка умирала от рака.



Вместе мы написали подробное письмо министру здравоохранения Зеленкевичу с просьбой оплатить лечение девочки в Германии. Ответа не дождались. Девочка умерла...»

К месту сказать, председателю Фрунзенского суда г. Минска для операции в Германии минздрав РБ выделил 25 тысяч долларов. Судья с правильным зрением властям интересен, дети трагической судьбы – нет.

11 тысяч рублей пенсии Саше и 10 тысяч маме (на уход за ребенком) – вот вся забота нашего нынешнего государства о девочке, восставшей из огня. «Самое горькое в Америке, это когда видишь россиян, которые приезжают на лечение за счет своего минздрава. У их детей более легкие травмы, а им на 2 месяца выделяют по 6 тысяч долларов».

В буклете о Саше, который выпустили Белорусский и Российский детские фонды, сообщается: «Президент Беларуси Александр Лукашенко назначил Саше специальную стипендию своего фонда».

Неправда! Не назначал. И не собирался.

Сашины родители много раз письменно обращались к Лукашенко и ни разу не получили ответа. Лукашенку письма о людских страданиях не интересуют.

Помогают Саше простые люди, способные преклоняться перед человеческим мужеством, побеждающим злой рок.

**Расчетный счет Белорусского детского фонда: 3015201460012 в ОАО «Белбизнесбанк», код 764 в Минске, с пометкой «для Саши Гуща».** ■

# Новая Панама – Беларускі край

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.6*

Канешне, і гэта яшчэ Герберт Уэлс заўважыў, у Крамлі марыць умеюць. Але за пяць апошніх гадоў доля спажывання газу ў расійскай энергетыцы вырасла з 34% да 64%. Іхняй сістэмай газазабеспячэння можна чатыры разы абкруціць зямлю, а газіфікаваныя, нават у еўрапейскай частцы краіны, толькі адзін з сямі населеных пунктаў. Вось чаму ў адным з інтэрв'ю расійскі міністр энергетыкі Аляксандр Гаўрын сказаў: «радовішчы спустошаюцца». Самім мала.

«Паўночны паток» пойдзе з Ямала на Санкт-Пецярбург, а далей — праз Фінляндыю — у Швецыю і Нямеччыну (50 мільярдаў кубаметраў газу штогод). «Блакітны паток» — 40 мільярдаў кубаметраў праз Чорнае мора ў Турцыю і адтуль транзітам у ЕС.

## Нарэшце, чыя?

Вакол трубаў будзе віраваць жыццё глабалістаў і іхных памагатых, а на іншых абшарах пачнецца тое, што ў нашых калгасах. Быць падобным да беларускага калгасніка захоча хіба мазахіст. Таму пачалася нечуваная валтузня.

Асноўную групу паддыванoвых змагароў складаюць добра вядомыя ўсім з дзяцінства «рускі, немец і паляк». Кожны з іх бачыць сваё.

Рускі бачыць, што газавы транзіт у сучасным і праектным выглядзе прымусіць праз дваццаць гадоў перапісваць падручнікі па эканамічнай геаграфіі. Паўднёва-ўсходні прамысловы комплекс на ўкраінскім памежжы трапіць у заняпад, страціць канкурэнтаздольнасць і тэхналагічную сумяшчальнасць з Цэнтрам і Уралам.

Немец бачыць шчаслівае завяршэнне канверсіі і інтэграцыі ГДР, пераўтварэнне германскіх карпарацыяў у ТНК і магчымасць націскаць на сваіх партнёраў па еўраінтэграцыі, паказваючы ім пудзілы Балтыйска-Чарнаморскага Саюза альбо сяброўкі-Расіі. Але разумны немец бачыць, што тую Расію не зацугляеш, і гатовы плаціць не за радовішчы і свідравіны, а адно за транзіт і сховішчы газу.

Таму крыху сумна немцу. Бракуе стабільнасці. Шкада трубы.

Паляк разам з рускім глядзяць, як дэградуе гаспадарка шырокай і вольнай Украіны. Глядзяць і баяцца. Украіна ўпэўнена ідзе ў аб'яднаную Еўропу і адпампоўвае сабе на 2,5 мільярды долараў расійскага газу (па словах прадстаўнікоў «Газпрома»). Паляк бачыць, як шлях з вектара Масква-Мінск-Берлін пераходзіць на лінію Кітай – Цэнтральная Азія – Каўказ – Украіна – Польшча – Мюнхен. Чым дрэнна – 40 мільёнаў тонаў паўднёвай нафты?

Ва ўсякім разе, за Украіну і з Украінай спрачаюцца. Расія вырашыла праклaсці новы газаправод, мінуючы Украіну. А палякі не хочуць, каб так было. І казалі пра тое ўкраінскаму міністру паліва і энергетыкі Сяргею Ярмолаву падчас летніх перамоваў у Варшаве. Смела і там, дзе лічылі патрэбным, выказвалі розныя думкі наконт таго прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі і міністр Ян Штайнгоф. Руcкія, па сваёй звычцы, на элеганцкія захады нашых заходніх суседзяў нічога не адказалі, а зрабілі, як хацелі.

Пра нас маўчаць. Чаму?

## Панама

Таму што мы — як гарлавіна бутэлькі, праз якую Еўропа высмоктвае кроў з Азіі. Таму што першая чарга ямальскага праекта ўжо ёсць. Таму што сілаў, каб нас кантраляваць, хопіць, а каб кантраляваць Украіну – не.

Таму тут не павінна быць панікі з гэтымі трубамі. Тут павінен быць сервіс дзеля іх: чыгунка, шаша, беларус з камп'ютэрам, рыдлёўкай і цвёрдым гумовым дэмакратызатарам. Карацей – новы беларускі парадак. Так найлепш для рускіх, немцаў і палякаў.

Ніхто не скажа, што транзіт дзеля нацыі нашай – рэч шкодная. Наадварот. Гэта і працоўныя месцы, і рост ВНП, і г.д.

Больш за тое, паводле інфармацыі з замежнай прэсы, найцікавейшай часткай праекта з трубамі, на наш погляд, ёсць зусім не труба, а светаводны кабель, што будзе пракладвацца далей на Усход – да самай Амерыкі. Магутнасць гэтай сістэмы і нямецкі кантроль над ёй скасуе амерыканскі манапалізм і разам з французамі створыць процівагу заакіянскім дзеячам інтэрнета.

За функцыянерамі тэлекамунікацыяў добра прамалёўваюцца глабальныя постаці лідэраў Рургазу, пастаянны суразмоўца Лукашэнкі Рэм Вяхіраў, польскі грандмайстар кантролю над карпарацыямі Аляксандр Гузаваты...

А мы? Мы кожны год доўга і цяжка гаворым пра запазычанасць. Кожны год наш правадыр нагадвае расейцам пра тое, якія мы шчодрыя хлопцы і нічога не бярэм за абарону заходняе мяжы ад страшнага монстра NATO. Адны разлічваюць на дармавы газ і розныя саступкі. Іншым надта не хочацца, каб намі палохалі дэмакратычных заходніх немаўлятак.

Каб зноў не спазніцца, трэба ўспомніць, што апошнія сто гадоў рабілася ў той Панаме, старой. І пашукаць хуценька якога паважнага хлопца. Няхай зоймецца шчыльненька нармалёвым пытаннем, якое спрадвеку цікавіла руплівых грамадзянаў. Што мы будзем мець з тых трубаў і светаводаў акрамя дружбафройндшафт? ■

СПОРТ

## Беларуская калонія ў Турцыі?

Аляксей ЛОЎСКІ

Як стала вядома, нападаючы беларускай футбольнай зборнай і маскоўскага клуба «Дынама» Максім Рамашчанка падпісаў доўгатэрміновы кантракт з клубам вышэйшага турэцкага дывізіёна «Газіантэпспор». Навіна цікавая тым, што ў гэтым клубе ўжо доўгі час гуляе беларускі абаронца Эрык Яхімовіч, таксама былы маскоўскі дынамавец. Штаб «Газіантэпспора», як высветлілася, зацікаўлены ў набыцці яшчэ двух беларусаў – варатара Генадзя Туміловіча і нападаючага Міколы Рындзюка. Усе яны цяпер гуляюць за асноўны склад беларускай зборнай і за расійскія футбольныя клубы. Цікава, чым выкліканая такая прыязнасць трэнера «Газіантэпспора» да беларусаў? І якія спартыўныя вынікі дасць стварэнне своеасаблівай беларускай калоніі ў турэцкім футболе? ■

## Пачалася новая Алімпіяда. Цяпер – шахматная



Аляксей СТАЎСКІ

Захапляльнае відовішча для ўсіх прыхільнікаў шахматаў праходзіць цяпер у Стамбуле. У суботу, 28 кастрычніка, пачалася Сусветная шахматная Алімпіяда. Удзел у ёй бяруць 1.390 шахматыстаў з 128 краінаў свету.

Сістэма Алімпіяды такая, што краіны разыгрываюць каманднае першынства шляхам камандных гульняў на чатырох дошках. Прыкладам, у матчы Беларусь – Расія пры перамозе нашага шахматыста на першай дошцы і трох нічыіх на трох астатніх дошках Беларусь атрымае два з паловай ачкі, а Расія — паўтара, бо за перамогу даецца адно ачко, за нічыю – палова. І так – 13 тураў па швейцарскай сістэме (гэта калі гуляюць зборныя, якія набралі блізкую альбо роўную колькасць ачкоў).

Беларусь на чэмпіянаце будуць прадстаўляць шэсць шахматыстаў: Аляксей Фёдараў, Аляксей Аляксандраў, Вячаслаў Дыдышка, Андрэй Кавалёў, Віктар Купрэйчык і маладзы Сяргей Азараў.

Беларусь дагэтуль вялікіх поспехаў на шахматных алімпіядах не дабівалася. Але мы лічымся моцнай «сярэднякамі». Кожны раз, едучы на Алімпіяду, мы маем у душы надзею, што нарэшце рэалізуем свой патэнцыял і зоймем месца прынамсі ў першай пяцёрцы. Паглядзім, што атрымаецца цяпер. Пакуль што па выніках двух тураў беларуская каманда набрала 5,5 ачкоў і займае разам з чатырма іншымі зборнымі трэцяе месца.

Шахматны свет захоплены цяпер не столькі баталіямі ў сталіцы Турцыі, колькі надзвычай вострай барацьбой расіянаў Гары Каспарава і Уладзіміра Крамніка за сусветную шахматную карону. Пакуль усё ідзе да таго, што ўпершыню з 1984 года Г.Каспараву прыйдзецца сысці з шахматнага подыума, бо пакуль што ён прайграе 7,5:5,5, і зрухаў да лепшага ў яго гульні не назіраецца. ■

## Мінус пяцьдзесят сем!

Аляксей ЛОЎСКІ

Усё ж такі занадта вялікая розніца ў класе беларускага і рускага баскетбола! Нават у класе беларускіх жа баскетбалістаў, якія гуляюць дома і якія падаліся на легіянерскія хлябы ў Расію.

Гэта атрымала яскравы доказ падчас двухраундавага паядынка беларускага баскетбольнага чэмпіёна «Гродна-93» і шостай(!) каманды Расіі – іркуцкага «Шахцёра». Гульні праходзілі ў рамках другога папярэдняга этапа розыгрышу Кубка Корача (адзін з найбольш прэстыжных агульнаеўрапейскіх трафееў). «Шахцёр», які трэніруе беларус Іван Едэшка і за які гуляюць два беларускіх баскетбалісты – Крыванос і Кузьмін, здабыў у двух матчах проста ашаламляльную перавагу – 57 ачкоў! Асноўны адрыў быў дасягнуты ў Іркуцку – 44 ачкі. Гэта сапраўдны накаўт для баскетбольнай каманды! І гэтая каманда – чэмпіён Беларусі. Што ў такім выпадку «Шахцёр» зрабіў бы з любой іншай? Не хочацца і ўяўляць. Вось і патрап пасля гэтага ў баскетбольныя еўракубкі – вынесуць уперад нагамі! ■



# «Казак» – па-беларуску «чужынец»

Лявон ГАРАДЗЕЦКІ, гісторык

**Словы «запарожскія казакі» нагадваюць пра вядомую карціну Рэпіна, словы «данскія казакі» – пра раман Шолахава, а вось словазлучэнне «беларускія казакі» рэжа вуха наўмыснай аперэтачнасцю.**

Сапраўды, спрадвеку свабодалюбівыя людзі, ратуючыся ад прыгнёту, уцякалі на свабодныя землі ля дняпроўскіх парогаў ці на Дон, дзе стваралі своеасаблівыя рэспублікі з выбарным кіраўніцтвам. Потым, пакораныя расійскай дзяржавай, казакі былі і рэгулярным войскам, здабывалі цару новыя землі ў Сібіры і на Каўказе, дзе іх і пасялялі. Так узнікла кубанскае, яікскае (уральскае), забайкальскае і амурскае казацтва. У наш час нашчадкі гэтых казакаў адраджаюць традыцыі і ўклад жыцця сваіх продкаў.

На тэрыторыі Беларусі ў тыя часы, калі зараджалася і існавала казацтва, не было ні вольных зямель, ні ўмоваў для ўзнікнення казацтва. На Беларусь толькі прыходзілі атрады ўкраінскіх казакаў – паўстанцаў Хмяльніцкага або казацкія палкі Расіі падчас войнаў і задушэння народных паўстанняў. Яны неслі на Беларусь кроў і гора. Яшчэ Трэці Статут ВКЛ напрыканцы XVI ст. утрымліваў артыкулы пра пакаранне для тых, хто любіць «казакаваці» (разбойнічаць).

Нягледзячы на гісторыю пытання і беспадстаўнасць, мініст РБ зарэгістраваў аж два аб'яднанні казакаў: «Белорусское казачество» і «Всебелорусское объединенное казачество». Кожная з гэтых арганізацый мае свае кіраўніцтва, сімволіку, статут, розныя мэты і склад.

Рэальная гісторыя «беларускіх казакаў» пачалася на пачатку 90-х гадоў, калі сталі з'яўляцца першыя казацкія суполкі ў абласных цэнтрах. Неўзабаве «беларускія казакі» былі запрошаныя на Першы з'езд казакаў Расіі. Вярнуўшыся са з'езда, кожны дэлегат пачаў лічыць сябе казацкім атаманам і гуртаваць вакол сябе тых, каго хвалявала казацкая рамантыка. Гэты разброд «беларускага казацтва» стаў вядомы расійскаму казацкаму кіраўніцтву, і ў 1995 годзе на Беларусь прыехаў з Расіі казацкі эмісар Уладзімір Ярохін, які меў дзіўны для казака чын «генерал-лейтэнанта». Ён паспрабаваў збіць пыху з розных атаманаў і аб'яднаць усіх «беларускіх казакаў» у адзіную арганізацыю.

Дзякуючы намаганням У.Ярохіна і тых грамадзянаў, якія лічылі сябе патомкамі розных рускіх казакаў, у Беларусі была створаная ГА «Белорусское казачество». На чале гэтай грамадскай арганізацыі быў пастаўлены новаспечаны «генерал-маёр» Мікалай Улаховіч. Неўзабаве дзейнасць М.Улаховіча пайшла ў разрэз з атрыманымі ад расійскіх атаманаў інструкцыямі.

Па-першае, падыгрываючы пастулату поліканфесійнасці Беларусі, у статуце казакоў Улаховіча замест вызначэння «на праваслаўных традыцыях» з'явілася «на хрысціянскіх», што размывала неабходны расіянам праваслаўны менталітэт казацтва. Па-другое, атаман Улаховіч нечакана стаў «генерал-палкоўнікам», чым паставіў сябе на адзін узровень з Вярхоўным атаманам Расіі, што пагражала выхадам з-пад расійскага падпарадкавання. Па-трэцяе, казакі атамана Улаховіча праігнаравалі запрашэнне на «вялікі казацкі круг Беларусі», які пачалі збіраць расійскія казацкія эмісары, каб навесці парадак у «Белорусском казачестве». На «вялікі круг» казакі ўсё ж сабраліся – з усёй Беларусі 111 казакаў, якія адышлі ад атамана Улаховіча. Нягледзячы на адсутнасць прадстаўнікоў ад усіх «беларускіх казакаў», «вялікі круг» абвясціў аб стварэнні «Всебелорусского объединенного казачества» і аб выбранні адзінага вярхоўнага атамана Усебеларускага(!) казацкага войска(!). Гэтым атаманам быў абраны Мікалай Арковіч («генерал-маёр»).



Якія замахі: «Усебеларускае казацкае войска», генеральскія чыны! Формай адзення гэтых «генералаў» чамусьці стала сучасная генеральская форма Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь. Таму атрымліваецца, што гэтым смешным аперэтачным «генералам», якія будуць бадзяцца па вуліцах, вайскоўцы павінны аказваць знакі вайсковай павагі! Гэта натуральны здзек над сапраўднымі вайскоўцамі, хто за вайсковы чын заплаціў гадамі службы, здароўем, а хто і крывёю. У Беларусі абедзве казацкія арганізацыі налічваюць толькі некалькі сотняў, уключаючы самых «казакаў», іхных жонак і дзяцей. Але якіх казакаў! Некаторыя, нават і дня не служыўшы ў войску, маюць палкоўніцкія і нават генеральскія пагоны. «Беларускім атаманам» хочацца выглядаць шыкоўна. І таму шыюць сабе дарагую форму. Варта было б гэтаму «казацтву» не забывацца народнай прыказкі: сустракаюць па вопратцы, праводзяць па розуме. Вось з апошнім у «казакоў» вялізная праблема. ■

АЛІМПІЯДА

## На XI Паралімпійскіх гульнях у Сіднеі беларускія спартсмены-інваліды заваявалі 23 медалі

Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН

**23 медалі заваявалі беларускія спартсмены-інваліды на XI Паралімпійскіх гульнях, што завяршыліся 29 кастрычніка ў Сіднеі.**

На рахунку беларусаў 5 залатых, 8 сярэбраных і 10 бронзавых узнагародаў. Гэта на 10 медалёў больш, чым 4 гады таму на Паралімпіядзе ў Атланце (ЗША). Тады яны заваявалі 3 залатыя, 3 сярэбраныя і 7 бронзавых медалёў.

У апошнія два дні спаборніцтваў, 28 і 29 кастрычніка, беларусы чатыры разы займалі месцы на п'едэстале. Юрый Бучкоў заваяваў «бронзу» ў кіданні дыска (ягоны вынік – 44,06 метра, што на 2,49 метра менш, чым у пераможцы – аўстралійца Расела Шорта, і на 1,80 метра менш, чым у сярэбранага прызёра літоўца Роландаса Урбонаса).

Віктар Жукоўскі заняў 3-е месца ў трайным скачку (12,23 метра; 1-е месца ў іспанца Мануэля Радрыгеса – 12,38, 2-е – у кітайца Дуаня Лі – 12,31).



Аксана Сівіцкая і Вольга Шулякоўская занялі 2-е і 3-е месцы ў скачках у даўжыню (адпаведна 5,14 і 5,11 метра; вынік іспанкі Разаліі Лазара, якая іх апярэдзіла, – 5,22 метра).

Апрача таго, 27 кастрычніка беларускі плывец Раман Макараў заваяваў сярэбраны медаль на дыстанцыі 100 метраў на спіне (1 хвіліна 6,74 секунды; першым фінішаваў японец Ёшыкацу Сакаі з сусветным рэкордам – 1 хвіліна 3,98 секунды).

У XI Паралімпіядзе ўзялі ўдзел каля 4 тысяч спартсменаў з 157 краінаў. Яны разыгралі 550 камплектаў узнагародаў у 18 відах спорту. Былі ўручаныя 551 залаты, 549 сярэбраных і 557 бронзавых медалёў.

Медалі заваявалі спартсмены 68 дзяржаваў (уключаючы незалежныя ў спартыўных адносінах Тайвань і Ганконг). Залатыя ўзнагароды на рахунку спартсменаў 52 краінаў.

Краіны былога СССР заваявалі ўвогуле 108 узнагародаў: 22 залатыя, 43 сярэбраныя і столькі ж бронзавых.

Па агульнай колькасці медалёў Беларусь падзяліла 21–23-е месцы з Іранам і Венгрыяй. За свае дасягненні спартсмены атрымаюць 103,9 тысячы долараў ЗША (па 7,5 тысячы за залаты медаль, па 3,75 тысячы – за сярэбраны і па 2,8 тысячы – за бронзавы).

Вось імёны беларускіх спартсменаў-інвалідаў, якія занялі прызавыя месцы:

«золата» – Ірына Фядотава і Аляксандр Данілік (веласпорт; індывідуальная гонка па пераследу і шашэйная гонка), Руслан Сівіцкі (скачкі ў вышыню), Вольга Шулякоўская (бег на 200 метраў), Раман Макараў (100 метраў батэрфляем);

«серабро» – Раман Макараў (200 метраў комплексным плаваннем, 100 метраў на спіне), Руслан Сівіцкі (трайны скачок), Віктар Хільмончык (штурханне ядра), Аляксандр Трыпуць (кіданне кап'я), Тамара Сівакова (кіданне дыска), Аксана Сівіцкая, Ірына Леанцюк (абедзве – скачкі ў даўжыню);

«бронза» – Алег Шэпель (скачкі ў вышыню, бег на 400 метраў), Юрый Бучкоў (штурханне ядра, кіданне дыска), Віктар Хільмончык (кіданне дыска), Віктар Жукоўскі (трайны скачок), Вольга Шулякоўская (скачкі ў даўжыню), Ірына Леанцюк (бег на 100 метраў), Юрый Рудзянок (200 метраў комплексным плаваннем), мужчынская зборная па лёгкай атлетыцы (эстафета 4 па 400 метраў).

Наступныя Паралімпійскія гульні пройдуць у 2004 годзе ў Афінах. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 822 Нумар падпісаны ў друк 30/10/2000 (18.00) Наклад – 8.920